БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

*13 студзеня 1994 г.*

*Чацвер*

*№ 4(13720)*

Кошт у розніцу 20 рублёў

Выдаецца з 1921 года


*Малюе Віктар ДУБОВІК*



## Кур'ер"ЧЗ"

### СТОП-ФАКТ

### На сустрэчу з Ельцыным

*Дэлегацыя Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь на чале са Станіславам Шушкевічам накіравалася 11 студзеня ў Маскву, дзе ў сераду адбыліся перагаворы з прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі Барысам Ельцыным.*

На сустрэчы разглядаліся стратэгічныя пытанні ўзаемадзеяння дзвюх дзяржаў у эканамічнай і іншых галінах. У саставе беларускай дэлегацыі віцэ-прэм'ер Уладзімір Заламай, старшыня праўлення Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч, іншыя афіцыйныя асобы.

### Украінскі экс-прэм'ер у Мінску

*11 студзеня Мінск наведала дэлегацыя Асацыяцыі ўкраінскіх прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў на чале з былым прэм'ер-міністрам Украіны Леанідам Кучмой.*

Дэлегацыя прыняла ўдзел у пашыранай нарадзе Беларускай канферэнцыі прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў, сустрэлася з прадстаўнікамі прамысловых прадпрыемстваў, прадпрымальніцкіх структур, дэпутатамі Вярхоўнага Савета Беларусі. У другой палове дня Леанід Кучма сустрэўся з Вячаславам Кебічам. У той жа дзень адбылася прэс-канферэнцыя экс-прэм'ер-міністра Украіны. "Эканоміка дыктуе нам, — сказаў ён, у прыватнасці, — тое, што... мы з нашымі калегамі з Беларусі павінны прымусіць прыслухацца нашыя і ўрады і Вярхоўныя Саветы да тых праблем, якія існуюць... Мы перайшлі тую небяспечную мяжу, за якой толькі бездань і больш нічога". Леанід Кучма ацаніў украінска-беларускія эканамічныя сувязі як "заняпалыя".

### План – толькі па падатках...

*Чатыры, а то і тры няпоўныя працоўныя дні ў тыдзень — з гэтага пачаўся год Сабакі для многіх працоўных калектываў Віцебска.*

"Захлынаецца" вытворчасць на станкабудаўнічых заводах, прадпрыемствах лёгкай, радыётэхнічнай, дрэваапрацоўчай прамысловасці: няма чым плаціць за сыравіну, камплектуючыя, электраэнергію. У той жа час ільвіную долю заробленых прадпрыемствамі сродкаў адбірае "падатковы рэкет".

### "Нясвіж" – фонд адраджэння

*14–15 студзеня ў Нясвіжы адбудзецца ўстаноўчая канферэнцыя заснавальнікаў міжнароднага фонду "Нясвіж", мэтай якога з'яўляецца садзейнічанне адраджэнню помнікаў горада, у тым ліку аднаго з найкаштоўнейшых архітэктурных ансамбляў рэспублікі — Палацава-паркавага комплексу.*

Бліжэйшыя задачы фонду — аднаўленне помнікаў гісторыі і культуры Нясвіжа, іх музейных экспазіцый, адраджэнне тэатральных і музычных калектываў — Нясвіжскага тэатра, балетнай школы і капэлы, а таксама ткацтва і вырабу гістарычных габеленаў, іншых народных промыслаў.

БелаПАН.

### Чыстая прадукцыя з бруднай зоны

*Мяркуецца, што ў гэтым годзе ў Быхаўскім раёне пачнецца вытворчасць чыстай сельскагаспадарчай прадукцыі.*

Раён, як вядома, пацярпеў у выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Пазбавіцца ад радыенуклідаў дапамагаюць земляробам вучоныя Беларускага навукова-даследчага інстытута аграхіміі і глебазнаўства ў садружнасці з іншымі навуковымі цэнтрамі рэспублікі. Спецыялісты абследавалі зямельныя палеткі ва ўсіх гаспадарках. З улікам узроўню радыяцыі для кожнай зоны забруджвання распрацаваны рэкамендацыі па вырошчванню сельскагаспадарчых культур. І як вынік — расліны не будуць збіраць радыенукліды. Падрабязныя рэцэпты распрацаваны для лугоў і пашы, жывёлагадоўчай галіны.

Новыя навуковыя праграмы вядзення сельскай гаспадаркі ва ўмовах павышанай радыяцыі ўкараняюцца таксама земляробамі Касцюковіцкага, Краснапольскага і Слаўгарадскага раёнаў. Распрацоўваюцца рэкамендацыі і для астатніх зон жорсткага радыяцыйнага кантролю.

БЕЛІНФАРМ.

### І зноў – лішнія людзі

*У цяжкім становішчы апынуўся сёння сталічны падшыпнікавы завод.*

Аб'ём выпускаемай прадукцыі на прадпрыемстве знізіўся на 20-30 працэнтаў. Каб застацца на плаву, завод вымушаны ісці на самыя непапулярныя меры — скарачэнне штатаў.

У першым квартале гэтага года будзе скарочана каля 1000 чалавек. Гэта ў першую чаргу тычыцца пенсіянераў, якія працуюць на прадпрыемстве.

### Сувязь дыктуе новыя цэны

*З 8 студзеня зноў, ужо ў каторы раз, падаражалі паслугі сувязі.*

Цяпер адна хвіліна тэлефоннай размовы па рэспубліцы каштуе 120 рублёў. Толькі размовы па Мінскай вобласці засталіся без змен. Кошт аднаго канверта вырас яшчэ на пяць рублёў.

### Рыхтуйце тоўстыя кашалькі

*Ну, вось, зноў дачакаліся падаражання. З 15 студзеня ў чатыры разы вырастуць тарыфы на паездкі ў чыгуначным транспарце далёкага і мясцовага накіравання.*

Так, напрыклад, білет да Масквы будзе цяпер каштаваць 16 тысяч рублёў.

А.СЦЯПАНАЎ.

### Золата "паўзе" ўверх

*З новага года ў скупачных пунктах Ювеліргандлю былі падняты цэны на серабро і золата.*

Кошт грама золата 585-й пробы вырас на 31,5 працэнта і цяпер складае 54 тысячы рублёў, грам серабра ў вас купяць за 1100 рублёў. А ў ювелірных магазінах грам золата зараз можна набыць "усяго" за 129 тысяч.

Лідзія РЫЖАНКОВА.

### Ва Уруччы будзе ваенны музей

*Беларусь мае багатую ваенную гісторыю, якая пакуль нідзе не сістэматызавана і аб'ектыўна не адлюстравана.*

Заяўку на такую сістэматызацыю, магчыма, зробіць Дзяржаўны музей ваеннай гісторыі Рэспублікі Беларусь, пабудаваць які плануецца ва Уруччы.

Як паведаміў дырэктар будучай установы Я.І.Белавусаў, у цяперашні момант распрацоўваецца праект музея на конкурснай аснове. Згодна з задумай творцаў, гэта будзе стыльны будынак з элементамі гатычнай архітэктуры і дэманстрацыйнай пляцоўкай для баявой тэхнікі. Зразумела, што буйныя задумы вымагаюць вялікіх грошай. У сувязі з гэтым узнікае пытанне: ці варта ўкладваць велізарныя сродкі ў культурны праект, пакуль поўнасцю не вырашана элементарная праблема таго ж жылога фонду для афіцэраў? Зрэшты, гэтае пытанне стала ўжо рытарычным у грамадстве, якое дасюль не вырашыла, што з'яўляецца першасным — культура ці каўбаса.

Лілія ГРЫНЯВЕЦКАЯ.

### Не таўчыце ваду ў ступе!

*Грэць на Віцебшчыне неба альбо таўчы ваду ў ступе — дарагое задавальненне. Нядаўна абласны Савет народных дэпутатаў прыняў спецыяльнае рашэнне, дзе ёсць артыкул аб нарматыўным расходаванні электрычнай і цеплавой энергіі.*

Зараз тыя арганізацыі і службовыя асобы, па чыёй віне працуюць на халастым ходу электрарухавікі, электрапечы, а таксама вылятае на вецер сціснутае паветра, вада, цяпло, будуць атрымліваць штраф да пяці мінімальных зарплат. Спагнанні прадугледжаны і для нядбайных грамадзян-прыватнікаў.

Падрыхтаваў Уладзімір МІХНО.

### Беларусь, якая расчароўвае

*Пад час мінулых калядаў у Мінску пабывала група навучэнцаў беларускага ліцэя з Вільні.*

Гэтыя дзеці нарадзіліся ў беларускіх сем'ях Вільні 7-10 гадоў таму.

Перад паездкай на радзіму продкаў яны з цікаўнасцю пыталіся:

— А што, там усё па-беларуску? Як у нашым ліцэі?

— А ці ёсць у Беларусі літоўскія ліцэі?

На жаль, радзіма продкаў стала першым расчараваннем у іхнім жыцці, бо не толькі не знайшлі тут літоўскіх ліцэяў, але і з беларускімі была праблема. Беларускую мову ў Беларусі ім даводзілася чуць не часцей, чым у Вільні, дзе беларусы цяпер усё ж — нацыянальная меншасць.

Вітаўт МАРТЫНЕНКА, ЧЗ-інфарм.

**Курсы валют на 12 студзеня:**

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 4200(4620) | 4450 | 2420(2660) | 2565 |
| "Бел-бізнесбанк" | 4000 | 4500 | 2300 | 2600 |
| "Прыёр" | 4100 | 4600 | 2370 | 2640 |

*(У дужках — курс за безнаяўны разлік)*




## Баставаць ці не баставаць?

□ Ліля ГРЫНЯВЕЦКАЯ, ЧЗ-інфарм

*Арганізацыйны камітэт прамысловых прафсаюзаў Беларусі, у які ўвайшлі ўсе кіраўнікі буйнейшых прафсаюзаў прамысловасці, вырашыў правесці 12 студзеня акцыю пратэсту пад назвай "Не — збядненню народа!".*

Правядзенне аднагадзіннага спынення ўсіх прадпрыемстваў прамысловасці выклікана тым, што толькі з 11 студзеня прадпрыемствы пачалі працаваць. Дзесяць дзён з пачатку новага года працоўныя знаходзіліся ў вымушаным адпачынку, які, магчыма, ударыў па нашай "ляжачай" прамысловасці не горш, чым якая забастоўка. Прагназіруецца, што шэраг прадпрыемстваў не прыступяць да працы і з 1 лютага. Жорсткая пазіцыя прафсаюзаў, якія, дарэчы, актывізаваліся апошнім часам, зыходзіць менавіта з таго, што рост цэн адбываецца пад час прастояў прадпрыемстваў, калі людзі не атрымліваюць зарплату. (Ілюстрацыя да гаворкі: апошняе павышэнне цэн на хлеб, малако, мяса, камунальныя паслугі).

Статыстыка сведчыць, што за 11 месяцаў 1993 года цэны на спажывецкія тавары ўзраслі ў 17,6 раза, а зарплата ў прамысловасці — у 9,8. Узровень жыцця знізіўся ў два разы. Мінімальная зарплата складае ўсяго 27 працэнтаў ад мінімальнага пражытачнага ўзроўню: мінімальная зарплата — 30 тысяч, а мінімальны спажывецкі бюджэт — 120 тысяч. Колькасць беспрацоўных узрасла ў два з паловай раза і складае 67 тысяч чалавек.

Безумоўна, у такіх умовах, калі хутка расце незадаволенасць працоўных, забастоўка выглядае натуральным спосабам "выпусціць пару", папярэдзіць масавы стыхійны выбух, які можа змесці ўсё. Прынцыповае пытанне заключаецца ў мэтах розных больш-менш лёгкіх форм забастоўкі і акцый пратэсту.

Забастоўка — класічны элемент працоўнага руху, крайняя форма барацьбы рабочых за свае правы. Даводзіцца канстатаваць, што класічныя механізмы наўрад ці спрацоўваюць у нашым далёка не класічна арганізаваным грамадстве з эканомікай пастсацыялістычнага ўзору. Складанасці адразу ж узнікаюць з вызначэннем работадаўца. Першы ўзровень — непасрэдна адміністрацыя. Другі — урад, як манапольны ўласнік нашых прадпрыемстваў. Усе, напэўна, зразумелі, што асноўны ўдар забастовачнага прафсаюзнага руху наносіцца менавіта па ўраду. Аднак патрабаваць ад урада павышэння зарплаты — тое ж самае, што сваімі рукамі падштурхоўваць кола інфляцыі, паколькі нішто не перашкаджае ўраду адначасова з зарплатай павышаць цэны, прычым апераджальнымі тэмпамі (так яно і адбываецца). Сёння ўрад — вымушаны работадаўца, які ўзваліў на сябе непасільную адказнасць за зарплату замест адказнасці за эканамічную палітыку, удакладненне якой і варта ад яго дабівацца.

Да правядзення сапраўднай доўгатэрміновай забастоўкі прафсаюзы сёння не гатовыя, яны не маюць забастовачных фондаў, каб матэрыяльна падтрымліваць рабочых, пакуль тыя не працуюць.

Нейкі час ішлі гаворкі пра замарожванне зарплаты, якое не магло не напалохаць працоўных і не магло б адбыцца не толькі па палітычных прычынах, але і таму, што гэта пагражала б поўным калапсам эканомікі. Зарплата пры росце цэн не павышаецца, значыць, зніжаецца пакупніцкая здольнасць насельніцтва. Калі тавары таго ж народнага спажывання немагчыма набываць, вытворчасць не мае сэнсу і спыняецца. Поўны калапс, "Снікерсамі" тут не ўратуешся.

Безумоўна, лагічна патрабаваць ад урада хаця б мінімальных сацыяльных гарантый, але сёння, калі ўзровень інфляцыі дасягае 40-50 працэнтаў, значна больш важна патрабаваць стварэння ўмоў эканамічнай стабільнасці і парадку.

Фота Сяргея БРУШКО.

### АКТУАЛЬНЫ КАМЕНТАР

## Спакойна, толькі спакойна...

□ Вера ПАЛЯКОВА, ЧЗ-інфарм

Чуткі — не факт, але такія ж упартыя. Бадай, Вячаслаў Кебіч не паспеў вярнуцца з Масквы пасля перагавораў з першымі асобамі Расіі, як у "размовах на лесвіцы", кулуарах і грамадскім транспарце папаўзлі чуткі з прэтэнзіяй на дакладнасць. Маўляў, ужо прывезлі сто тон расійскіх грошай, і з 1 лютага будзе ісці абмен "зайчыкаў" на рублі (1:1). Прыемна, канешна, суцяшаць сябе, што хутка пасля гэтага нашы цэны знізяцца да расійскага ўзроўню (дарэчы, мінімальная заработная плата таксама). "Блажен кто верует..."

Бізнесмены, фінансісты, мякка кажучы, сумняваюцца наогул у магчымасці аб'яднання грашовых сістэм і ўваходжанні Беларусі ў рублёвую зону. Валютны рынак рэспублікі ліхарадзіць менавіта з-за неакрэсленасці і амаль поўнай непрадказальнасці будучых падзей. Большасць эканамістаў схіляецца да таго, што даляр хутка "скокне", прытым больш імкліва, чым зараз падае.

Пацвердзіць або абвергнуць чуткі адмовіліся і ў Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь, і ў Савеце Міністраў.

— Падобную "інфармацыю" не каменціруем,— адказалі, у прыватнасці, з Нацбанка.— Грошы прывезлі? Дык Беларусь "зайчыкаў" вязе з Расіі, мы ж часткова друкуем іх там. Згадзіцеся, што за дакладную інфармацыю бізнесмены заплацяць немалыя грошы і таму ўсё, што тычыць гэтай тэмы, лічыце за дзяржаўную ці камерцыйную тайну.

З другога боку маюць рацыю і ў Саўміне: дэкларацыі і абвяшчэнні — яшчэ не канкрэтны подпіс пад дакументам. І нават учарашні візіт кіраўнікоў Беларусі ў Маскву не высветліць сітуацыі канчаткова. Толькі ў другой палове студзеня, калі чакаецца візіт у адказ прэм'ера Чарнамырдзіна ў Мінск і падпісанне адпаведных пагадненняў, мы можам хоць з нейкай доляй упэўненасці прадказаць сваю будучыню. А пакуль раю дробным уладальнікам валюты трымаць свае даляры ў кішэні. Спакойна, грамадзяне, толькі спакойна...

### ПРАВІНЦЫЯЛЬНАЯ ХРОНІКА

### З жыллём сёння ўсюды цяжка

*Тым не менш, кіраўніцтва Асіповіцкага завода аўтаагрэгатаў шмат ўвагі ўдзяляе будаўніцтву жылля для сваіх працаўнікоў.*

Днямі здадзены ў эксплуатацыю 77-кватэрны жылы дом і магазін харчовых прадуктаў. У кватэры засеяцца ў асноўным працаўнікі прадпрыемства. Дарэчы, гэта не адзінае наваселле ў Асіповічах. 28-кватэрны жылы дом пабудаваны для сваіх рабочых ПМК-95. Будуецца яшчэ каля 10 вышынных дамоў іншымі ўстановамі горада, які расце зараз як уверх, так і ўшыркі.

Іван СЦЯПУРА.

### У Оршы не раджаюць: няма мазуту

*Летась у Оршы ў першых трох кварталах нарадзіліся 1179 чалавек, а памерла 1253.*

У горадзе перасталі раджаць, яно і нядзіўна — няма мазуту. Гарадскі радзільны дом ацяпляе кацельня піваварнага завода, паліва няма, а півам таксама нічога не нагрэеш. Вось і апускаецца шкала тэрмометра ў раддоме часам да адзінаццаці градусаў. Куды там раджаць, калі нават медперсаналу даводзіцца хукаць на рукі.

### На танцы – з каламі

*З каламі сустракаюць жыхароў навакольных вёсак у Горскім сельскім Доме культуры, што на Лепельшчыне.*

Прыходзіць сюды мясцовая моладзь не патанцаваць, але наладзіць разборкі, павыбіваць вокны. Нават міліцыі з цяжкасцю ўдаецца справіцца з арыгінальнымі танцорамі. Мінулі часы рыцарскіх паядынкаў, калі адносіны высвятлялі, выходзячы "на разы". Зараз жалезнымі аргументамі ў хлапечых бойках, як правіла, выступаюць дубовы кол, моцны кулак ды падкаваны абцас. Ці не доўга да вялікай бяды?

### У лазні памыюцца... свінні

*Прывольна жывецца свінням у калгасе "Перамога" Талачынскага раёна. Зараз яны займелі мажлівасць пасцябацца бярозавым венічкам у лазні.*

Была тут у вёсцы Канапельчыцы калгасная лазня, ды закрылі яе, спасылаючыся на адсутнасць саляркі. А затым знялі і помпу для падачы вады, устанавілі яе на свінаферме. Свінням раскоша, а людзям хоць не жыві — няма дзе памыцца. Тут у асноўным пенсіянеры, у гарадскую лазню не наездзішся. Ну, ды людзі ж — не свінні, пачакаюць.

Падрыхтаваў Уладзімір МІХНО.

### Турмы не будзе

*Такім было канчатковае рашэнне Савета Міністраў рэспублікі, які пастановай № 851 адмяніў дзве папярэднія аб размяшчэнні на базе былога расійскага гарнізона ракетных войскаў стратэгічнага прызначэння ў вёсцы Касцяні, што ля Пастаў, калоніі ўзмоцненага рэжыму.*

Недарэмнымі аказаліся намаганні жыхароў і ўлад прыгранічнага горада, якія неаднаразова звярталіся ў вышэйшыя інстанцыі, указвалі на прычыны, згодна з якімі размяшчэнне калоніі ў горадзе трэба лічыць немэтазгодным. І вось, нягледзячы на тое, што была ўжо разгорнута работа па арганізацыі калоніі, набраны штаты, і нават завезены зняволеныя, урад вырашыў скарыстаць базу былой вайсковай часці для іншых мэт. Хутчэй за ўсё, тут будзе пансіянат для аздараўлення дзяцей, што пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі. Такая вось канверсія... Ну, а бабулькі з Паставаў і навакольных вёсак могуць спаць спакойна, не баючыся, што ўначы да іх уварвецца які-небудзь уцякач з калоніі.

Сяргей ВІШНЕЎСКІ.

